# Самапомач Гаспадарская

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 16 (69).
Год VI.
Вільня.
10.X.1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.

## Палесьсе...

Шмат баек ведама аб Палесьсі. Найменш сэнсу аднак у тэй з іх, якая цьвярдзіла — й да сягоньня цьвердзіць яшчэ — што на Палесьсі ёсьць вельмі шмат грунту пад асадніцтва. Байку гэту пачалі раздзьмухіваць розныя патроны асадніцтва адразу пасьля сусьветнай вайны, накіроўваючы на Палесьсе многа рознага народу з тых мясцоў — блізу выключна з абшару этнографічнае Польшчы, — дзе гусьціня насяленьня здавалася быць вельмі вялікай. З вялікім укладам сіл і грошаў рынуліся тады на Палесьсе спачатку асобныя пасяленцы. Жыцьцё аднак паказала што іншае, і тыя, што меліся сьвяціць прыкладам у гаспадарцы, або расплываліся ў чужым для іх „моры", або „зьбіралі манаткі й..."

Гэта быў першы пэрыяд „вялікіх магчымасьцяў" пасьляваеннага асадніцтва на Палесьсі.

На зьмену няўданых спробаў прыйшлі практычныя (здавалася-б) пазнанякі, якія ўжо ў 1930 г., з ініцыятывы і пры выдатнай помачы тамашніх самаўрадаў, пасылалі на Палесьсе рэгулярна па 20—22 сямействы, якія асядалі сплашной ґрамадой (каб не „распусьціцца" ў палескім „моры") на асушаных Вядатупіцкіх тарфянішчах каля Івацэвіч у Косаўскім павеце. Кожны такі асаднік, маючы ўсяго 4.000 зл. гатоўкі і патрэбны інвэнтар, атрымліваў гатовы (з будынкамі) 25 гэктаровы хутар. Гэтак меліся пасяліць на Палесьсі 68 тысяч асадніцкіх сем'яў...

Ці гэтыя пляны сягоньня выкананы, мы тымчасам ня ведаем. Можам аднак і мусім адцеміць сягоньня іншую праяву — на лічбах абаперты доказ, што зямлі на асадніцтва на Палесьсі няма, а ўсе гутаркі аб „запасах" такой тут зямлі гэта легенда, байка.

У чым справа?

Былы кіраўнік Акружнога земскага ўраду ў Берасьці, а пасьля кіраўнік канцэлярыі праектаў мэліорацыі Палесься пры Міністэрстве Земляробства С. Рыхлоўскі напісаў, а Гаспадарскі Інстытут Усходніх Земляў пры TRZW*) выдаў кніжку п. н. „Dzisiejszy stan problemu melioracji Polesia". Да гэтай кніжкі яшчэ вернемся хіба ня раз. Тут-жа толькі зазначым, што аўтор, на падставе даступных яму лічбаў і дакумэнтаў, выразна даказаў усю няпраўду тых, што цьвердзяць, быццам на Палесьсі ёсьць негранічаныя запасы грунтоў пад асадніцтва. Для адлюстраваньня гэтага возьмем тут колькі лічбаў, першых з берагу.

Уся байка аб „вялікіх абшарах" дзеля колёнізацыі на Палесьсі паўстала і пакутуе ў ґаловах людзей ад таго, што яны, найчасьцей ніколі ня былы на Палесьсі, знаюць яго толькі з агульнага абшару, пададзенага ў першым лепшым падручніку. Ня ведаюць аднак колькі гэтага абшару адпадае на розныя няўжыткі, як лясы, імшары і галоўнае — непраходныя балаты. Вот-жа С. Рыхлоўскі вельмі выразна паказаў, што хочучы мець паняцьце аб гусьціні засяленьня Палесься, ня можна вырахоўваць гэтага, дзелячы агульны лік людзей на ўвесь абшар на Палесьсі, а толькі на абшар сяк-так прыгодны да гаспадаркі. А гэта ёсьць дзьве зусім розныя рэчы. Бо калі пры першым спосабе (пры агульным абшары) на адзін квадр. кілёмэтр Палесься прыпадае толькі 26 чалавек, дык на адзін квадр. кілёмэтр зямлі прыгоднай да гаспадаркі выпадае аж 121 чалавек (у Пазнаншчыне толькі 113 чалавек). Газэты, сьцьвярджаючы гэты факт, зазначаюць, што „гусьціня земляробскага насельніцтва на Палесьсі ня ўступае, а часта нават перавышае, найбагацейшыя і найгусьцей заселеныя аколіцы г. зв. Польшчы А, зьбліжаючыся проста да варункаў на Сьлёнзку, у Бэльгіі ці нават у Кітаю і Індыі". („Słowo" № 268).

Ёсьць гэта вельмі цэннае прызнаньне. Каб-жа яго гэтыя самыя паны з газэтаў не забываліся й паводле яго паступалі. А галоўнае, каб раз урэшце згадзіліся, што колёнізацыя Палесься прыезднымі здалёку людзьмі, гэта балючая крыўда для мясцовых Паляшукоў.

*) T.R.Z.W. — Towarzystwo Rozwoju Ziem Wschodnich.

# „Самапомач“ за дарма!

*Хочучы памагчы нашай беларускай перадусім моладзі, якая жадала-б паглыбіць свае пазнаньні з земляробскай гаспадаркі і ня мае на гэта адпаведнай літаратуры, рэдакцыя „Самапомачы“ пастанавіла ДАРМА раздаць частку гадавікоў „Самапомачы“ за мінулыя гады паміж тых сваіх сталых падпішчыкаў, якія прышлюць нам адну залатоўку на пакрыцьцё коштаў перасылкі.*

*А знача, хто да 1.XII сёл. аплаціць падпіску за сёлетні 1937 год і прышле акрамя таго залатоўку на перасылку, той акрамя сёлетняга часапісу дарма атрымае йшчэ два гадавікі „Самапомачы“ за мінулыя гады. Да рассылкі маем гадавікі за гады: 1933, 1934, 1935 і 1936. Пры перасылцы грошаў трэба паказаць з якіх двух гадоў хто хоча атрымаць гадавікі. Хто цэлую сёлетнюю падпіску аплаціў, а хоча атрымаць гадавікі з мінулых гадоў, той павінен прыслаць толькі адну залатоўку, з азначэньнем „на гадавікі“.*

*Дык карыстайце з рэдкай аказіі, якая больш не паўторыцца. Паведамце аб гэтым сваіх суседзяў і знаёмых. Ведайце, што кожны гадавік гэта самастойная гаспадарская чытанка: знойдзеце там цікавыя і карысныя рады аб гаспадарцы палявой, сенажатнай, гадаўлянай, малачарскай, вэтэрынарнай помачы, аб хатняй гаспадарцы, жаноцкай і г. д. — Карыстайце!*

*Выдавецтва «Самапомачы».*
*Вільня, Завальная 1.*

## Зямельная рэформа?

„Kurjer Czerwony“ зьмясьціў анагдай артыкул, які ўважаецца ўступам да ўрадавага праекту зьмены польскага закону аб зямельнай рэформе. Паводле гэтага „ўступу“ мела-б быць сусім скасаванай гэтак званая парцэляцыя прыватная. —Ці гэткая зьмена ў законе ўрэшце калі-небудзь станецца фактам— трудна згадаць. Ведама толькі тое, што „прыватная парцэляцыя“ зглуміла многа й многа. Ці гэты праект ужо мог-бы што-нёбудзь направіць? Ці ўжо не запозна махаць рукамі?

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Жалезная руда каля Нясьвіжа.** На палёх вёскі Пятухоўшчыны, Гавезьнянскай гміны, Нясьвіскага павету (10 кілём. ад Нясьвіжа і 7 кілём. ад Гародзеі) адкрыты запасы высокапрацэнтнай жалезнай руды. Пробы гэтай руды ў хуткім часе мае дасьледаваць спэцыяльная камісія з Віленскага Унівэрсытэту.

**Пазычкі на сямейныя сплаты.** Зямельны Банк урухоміў пазычкі на сямейныя сплаты. Аб пазычку такую могуць старацца ўласьнікі ўжо 5 гэктарных гаспадарак Уласьнікі 5—15 гэктарных гаспадарак могуць атрымаць пазычку да 50 прац. вартасьці гаспадаркі. Пазычка сплачваецца праз 25 гадоў, два разы ў год: 1 красавіка і 1 кастрычніка.

**«Перабродзкія балаты»** - гэтак называецца новасарганізаваная водная супалка, якая мае заняцца асушэньнем грунтоў у далінах рэк: Вяты, Храброўкі і Гэлчыцы (гміны: Мёрская, Друйская, Перабродзкая). Абшар гэтых грунтоў 4.000 га, а кошт 950 тыс. зл., з чаго палову (50 прац.) пакрывае казна, 30 прац. паветавы самаўрад і 20 прац. — занітэрэсаваныя ўласьнікі грунтоў, якія могуць сваю часьць адпрацаваць. Цэласьць работы разложана на 5 гадоў. Сёлета рэгулюецца р. Вята (да возера Шчолна).

**Касуецца ахарона лёкатараў.** Пастановай Рады Міністраў з 31.8. сёл., пачынаючы з 1.1.38 г. будзе ступянёва касавацца ахарона лёкатараў (арандатараў памешканьняў). З пад ахароны будуць выняты ў 1938 г. памешканьні 5-пакаёвыя, у 1939 — 4-пакаёвыя, у 1940 — 3-пакаёвыя, у 1941 — 2 пакаёвыя, у 1942 — 1-пакаёвыя і ў 1943 г.—кухня без асобнага пакою.

**Двугадовая кошыкарская школа ў Маладэчне.** Сьледам за Вялейкай, зацікавілася кошыкарствам і суседняе Маладэчна, дзе 20 г. м. мае паўстаць двугадовая кошыкарская школа. Навука ў школе бясплатная. Пяршынство прыняцьця ў школу маюць найздальнейшыя і найбяднейшыя абсольвэнты пачаткавых школ Маладэчанскага павету. Кошыкарства ў нас мае будучыню. Патрэбны толькі невялікі ўклад грошаў.

## Veterynaryjnaja słužba ŭ Vilenščynie

**Arhanizacyja.** Na abšary Vilenskaha vajavodztva pracujuć 14 lekaraŭ-veterynaraŭ dziaržaŭnych i 36 — samaŭradavych. Z uvahi na vialiki abšar paasobnych pavietaŭ, pavietavyja lekary nie mahli absłužyć usiaho pavietu i tamu ŭstanoŭleny dla ich pamacniki: lekary-veterynary rajonnyja i abvodnyja. U skład rajonu ŭchodzić abšar 2—3 hminaŭ, a abvod — heta hmina adna.

Biespasiarednim zadańniem rajonnaha lekara veterynaryi jość lačeńnie; akramia taho jon kantraluje ŭ svaim rajonie jakaść miasa. Abvodny (na hminu) lekar-veterynar maje dahlad nad bojniami i h. zv. miascami zaboju, a lačeńniem zajmajecca tolki paza ŭstanoŭlenymi hadzinami pracy ŭ bojni i tolki na abšary taje hminy (abvodu), u jakoj aficyjalna žyvie. Abaviazak padatkaŭ dachodnaha j abarotnaha da sioletniaha hodu adstrašaŭ veterynaroŭ ad pryvatnaj praktyki. Sioleta-ž heta sprava ŭrehulavana i tamu abvodnyja lekary-veterynary pačali bolš zajmacca pryvatnaj praktykaj. Vidać heta z ličby zarejestravanych paradaŭ: padčas kali ŭ 1935 h. takich paradaŭ było 6.752, dyk u 1936 h. było ich užo 12.854 (100 pracentaŭ bolš!). Za paradu ŭ uradavych hadzinach ustanoŭlena apłata 30 hrašoŭ.

U najbližejšym časie pradbačycca budova veterynaryjnych ambulatoryjaŭ, prynamsia pa adnej u kožnym paviecie.

Apрača pieraličanaj pracy, veterynaryjna-lekarski personal na abšary kožnaha pavietu zajmajecca tak-ža baraćboj z chvarobami zaraznymi. Byvajuć vypadki, što za adzin dzień prychodziać u paviet až 10 paviedamleńniaŭ z hminaŭ i palicyjnych pasterunkaŭ ab vybuchu zaraznych chvarob. Pavietavy lekar nia moža ŭ takich vypadkach usich absłužyć i pavinien vyručacca veterynarami rajonnymi ci abvodnymi. Va ŭsich takich vypadkach pavietavy lekar adnak musić spraŭdzić usie čynnaści paduładnych lekaraŭ: rajonnych i abvodnych.

**Stan zaraznych chvarobaŭ.** U praciahu 1936 h. pamiž žyviołaj chatniaj byli zanatovany hetkija zaraznyja chvaroby, ab jakich treba paviedamlać u praciahu 24 hadzin ad času prajaŭleńnia i kali chvoraja na hetu chvarobu žyvioła zdochnie, abo z uradavaha nakazu budzie zabita (zarezana), dyk ułaśnik dastaje zapamohu i zvarot koštaŭ:

a) suchoty, šalonaść, karbunkuł, zaraza dzičyny j skaciny, šalestnica, zaraza j mor śviniej; zdaralisia tak ža vypadki karosty ŭ koniaŭ i čyrvonki ŭ śviniej, za katoryja kazna nia vypłačvaje ni zapamohaŭ, ni tymbolš adškadavańniaŭ.

b) chvaroby, paviedamleńnie ab jakich nie abaviazvaje i koštaŭ zmahańnia z katorymi kazna nie pakryvaje: zołzy i plamizna u koniaŭ, zarazny naryŭ pochvy, zaraznaje śkidańnie, malarja (pyroplasmosis) i stałaja kataralnaja haračka ŭ bydła.

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## Тавар і цана.

Гаспадарскі крызыс, які заграніцай мінуў ужо якія тры а нават больш гадоў, а ў нас толькі-толькі што нязначна рухнуў у кірунку папраўы, ня можа прайсьці бязсьледна, мусіць шмат чаго навучыць. „Навука — кажуць— каштуе грошы.“ Вот-жа толькі што пера жытая навука крызысу каштавала вельмі дорага і з яе трэба карыстаць.

З паміж шмат якіх іншых справаў, якія крызыс выказаў і пацьвердзіў, ёсьць і тая, што „старасьвецкая“ гаспадарка лепш вытрымала крызыс, чым гаспадарка паступовая ці культурная. Калі-ж шукаць прычын такой вытрымаласьці „старасьвецкіх“ гаспадарак, дык аднэй з іх акажыцца тое, што „старасьвецкая“ гаспадарка вельмі нязначна толькі зьвязана з рынкам, падчас калі гаспадарка „паступовая,“ можна сказаць, усёцэла ад рынку залежа. Мыліўся-б аднак той, хто думаў-бы, што ад рынку трэба стала ўцякаць, бо рынак ёсьць неадлучнай складовай часткай гаспадаркі. Не ўцякаць ад яго трэба, але пазнаць і кіраваць.

А пазнаць ёсьць што, бо рынак для нашага селяніна, ці лепш сказаць сілы, якія рынкам кіруюць, гэта для нашага селяніна адна блудная пушча. На нясьведамасьці людзкой спэкулюць розныя купцы й перакупшчыкі, хрышчоныя ня менш ад няхрышчоных. І ў іхніх кішанёх астаецца ўсё тое, што ўродзіць на сялянскай ніве ці прыплодзіцца ў хляве.

Каб ня быць галаслоўным, затрымаемся на хвіліну над тым, што дзеецца ў нас на рынках з збожам. Даволі так павярхоўна пацікавіцца цэнамі напр. за жыта, плачанымі ня то што ў розных мясцох, але ў адным і тым-жа месцы і ў той-жа торговы дзень Што-ж тут бачым? А вось што: за жыта ці іншае збожа „аднастайняе“ плацяць больш, чым за „зьбіранае.“ Іншым разам гэта „аднастайняе“ жыта называюць „дворным“ і плацяць за яго даражэй, чым за жыта „зьбіранае,“ называнае ў такім выпадку „вясковым“ ці „сялянскім.“ Чаму? А толькі таму, што нашы сяляне ня знаюць вартасьці свайго тавару. Бо навукова даказана, што мукі з „сялянскага“ жыта бывае ня менш чым з жыта „дворнага,“ а калі гаварыць аб пякарскай вартасьці „сялянскага“ жыта, дык яна вышэй (так, вышэй!) яшчэ стаіць, чым у жыта „дворнага.“ Адзін толькі тут варунак трэба мець наўвеце: жыта мусіць быць **добра вычышчаным!**

Але ня можна забывацца й аб тым, што нават „дворнае“ ці „аднолькавае“ жыта раз дае больш мукі, іншы раз менш, сама-ж мука з такога жыта дае раз больш прыпёк, а іншы раз меншы. Знача ў зярняці збожа ёсьць яшчэ нейкі „сакрэт,“ пайменна —вымол і прыпёк з яго залежа ад таго, колькі ў зярняці бялка, як вялікая ягоная шклістасьць. Аблічыць гэта можна аднак толькі ў дасьледчых лябораторыях і таму для штодзеннай практыкі трэба шукаць якіх пробаў іншых, больш даступных. І такія пробы ўжо даўно знойдзеныя і спраўджаныя, гэта: гэктолітравая вага зерня й ягоны колер. Што да колеру, дык было сьцьверджана, што найлепшае ёсьць жыта з зернем роўна-зялёным. Гэктолітравая-ж вага—гэта вага таго мноства жыта, якое зьмесьціцца ў адным гэктолітры.*) Чым гэта вага большая, тым лепш. У сярэднім гэктолітр жыта важа 72 з паловай да 73 з пал. клг

Якая-ж з усяго гэтага практычная навука? Трэба цікавіцца тымі сіламі, якія кіруюць цэнамі на рынку. А што датыча жыта, дык ня можна дапускаць, каб вартасьць ягоная цанілася паводле таго, на чыім грунце (дворным ці вясковым) яно вырасла, а толькі паводле вартасьці ягонай сапраўднай. Дзеля гэтага аднак у першую чаргу трэба дастаўлянае на рынак жыта добра й старанна ачышчаць. Будзе гэта і згодна з праўдай і напэўна больш карысным.

*) у гэктолітры ёсьць 100 (сто) літраў.

*Ці Вы ўжо аплацілі падпіску за II-ія паўгодкі? Зрабеце гэта найхутчэй пераказам разрахунковым на конто 40.*

---

Suchoty skaciny byli natavanyja ŭ 4-ch vypadkach u paviecie Vilenska-Trockim. Karbunkuł zanatavany byŭ u troch vypadkach, ŭ troch roznych pavietach. Zar-za dzičyny j skaciny doŭhi čas nia była znanaj i letaś pajaviłasia ŭ 6-ch miascoch pavietu Pastaŭskaha, u 2-ch miascoch pavietu Vialejskaha i ŭ 1 miescy ŭ paviecie Vilenska-Trockim — usiudy pa adnym vypadku ŭ adnej haspadarcy. Zarodkaŭ hetaj chvaroby dahadvacca treba na bałocistych i lasnych paśbiščach, jakija letaś z pryčyny suchaści byli dastupnyja. Vypadki šalonaści na abšary Vilenščyny stała źmianšajucca. Za cеły letašni hod było zanatavana 5 vypadkaŭ šalonaści sabak u paviecie Brasłaŭskim, i try vypadki šalonaści skaciny ŭ paviecie Vilenska-Trockim.

Mor śviniej byŭ natavany pa ŭsim abšary Vilenščyny, najbolš u pavietach: Maładečanskim, Vialejskim i Vilenska-Trockim. U hetych pavietach była zanatavana zaraza śvinnoha moru ŭ 238 haspadarkach, što ŭ abrachunku vynosić 74 prac. ahułu zaražanych śvinnym moram chlavoŭ na abšary Vilenščyny. Apracа zamykańnia dostupu ŭ zaražanyja haspadarki i z takich haspadarak, stasavanaja była ŭ ich padvojnaja dezynfekcyja rastvoram palenaj vapny, vapny chloravaj i formaliny i acharonnaje ščapleńnie.

Karosta ŭ adnakapytnikaŭ zanatavana była ŭ troch pavietach, u formie naahuł łohkaj i pa zastasavańni miešaniny šeraha myła, karasiny i aleju była vylečana.

Čyrvonka ŭ śviniej była zanatavana va ŭsich pavietach Vilenščyny, najbolš u paviecie Maładečanskim (113 haspadarak — 38 prac. vypadkaŭ va ŭsiej Vilenščynie). Dalej iduć paviety Śviancianski (76 vypadkaŭ), Vilenska-Trocki (46 vypadkaŭ), Vialejski (42 vypadki); u reščie pavietaŭ — mienš. Naahuł za 1936 h lićba vypadkaŭ čyrvonki, u paraŭnańni z 1935-tym hodam, vielmi ŭzrasła, blizka na 130 prac., što treba tłumačyć haračym letam. 65 prac. vypadkaŭ kančalisia śmierciu. Na čyrvonku najbolš padatnyja byli štuki śviniej rasavych i davoli adpornyja štuki rasy miascovaj.

**Zapamohi i adškadavańni.** Za žyviołu stračanuju z pryčyny karbunkułu ŭ 19 vypadkach vypłačana było 1.822 zł. 50 hr., zarazy dzičyny ŭ 6 vypadkach — 410 zł., nasacizny ŭ 273 vypadkach — 37.536 zł. 75 hr, mor śviniej u 414 vypadkach — 9.483 zł. 94 hr.

**Bojni.** U 1936 h. na abšary Vilenščyny było 19 bojniaŭ publičnych, 41 supolnych miascoŭ zaboju i 2 abvody. Novuju bojniu z addziełami: a) miasnym, b) małočnym i c) inšych spažyvieckich praduktaŭ—pačali budavać u Hłybokim; dakončana budova bojni z ladoŭniaj u Maładečnie, Ašmianie, Pastavach i ŭ Rakavie (Maładečanski paviet). U prajekcie budova mienšych bojniaŭ u Kabylniku i Varapajevie, i ŭparadkavańnie isnujučych bojniaŭ u Duniłavičach i Novaj-Vialejcy. Pačata budova bojni ŭ Trokach. (Z spravazdačy insp. veterynaryi M. Rymkieviča ŭ Vilenskaj Zieml. Pałacie).

## Распускальны перагной

Хляўны гной, якім гноім нашы палі, мае ў сабе ўсе найважнейшыя складовыя сучасткі, канешныя дзеля ўзросту й разьвіцьця гадаваных расьлінаў, як *азот, фосфар, паташ і вапна*. Таму расьліны па хляўным гнаі растуць без параўнаньня лепш, чым на глебе нягноенай. З другога боку ведама, што ёсьць цэлы рад розных гнаёў штучных (мінэральных), якія маюць у сабе звычайна адзін толькі з вышэй названых элемэнтаў (азот, фосфар, паташ, вапна). Гэтыя гнаі ўжываюцца тады, калі ў глебе няма зусім нейкага аднаго ці двух з названых элемэнтаў,або ёсьць яго вельмі мала,або ўрэшце калі расьліна гадаваная патрабуе яго значна больш, чым колькі магла-б знайсьці ў гнаі хляўным.

Сьветлыя земляробы й дасьледчыкі здаўных даўна задавалі сабе пытаньне, ці ня можна было-б хляўны гной замяніць гнаямі штучнымі. Бо калі хляўны гной мае ў сабе пэўны лік гнойных сучастак, дык можна было-б думаць, што атрымаем тое самае, калі гэтыя сучасткі дадамо глебе ў гнаёх штучных. Практыка аднак вуча, што расьліны на хляўным гнаі разьвіваюцца й родзяць лепш, чым на гнаёх штучных, хоць сума кармовых сучастак ў абодвух выпадках была зусім тая самая.

Доўга не маглі людзі вытлумачыць гэтага дзіўнага на пагляд зьявішча. І толькі нядаўнія навуковыя дасьледаваньні паказалі, што гнойная дзейнасьць хляўнога гною лепшай ёсьць дзеля таго, што гэты гной мае ў сабе, раз больш іншы раз менш, чынны перагной, які распускаецца ў вадзе. Дзеля таго што штучныя гнаі перагною гэтага ў сабе зусім ня маюць, дык і дзеюць яны горш ад хляўнога гною, не зважаючы на аднолькавую колькасьць агульна знаных кармовых для расьліны (гнойных) элемэнтаў. Трэба зазначыць, што распускальнага (ў вадзе) перагною, хоць ён і для расьліны вельмі важны і карысны, ёсьць вельмі мала. Тым хіба толькі й можна тлумачыць, што на гэту справу не звярочвалі дагэтуль большай увагі.

Для практычнага земляроба вельмі важна ведаць, як атрымаць гэны распускальны перагной у варунках земляробскай гаспадаркі. Пробы паказалі, што шмат распускальнага перагною творыцца пры гарачай фэрмэнтацыі (квашэньні) хляўнога гною, больш, чым калі гэты перагной творыцца ў варунках звычайных (пад скацінай). Важнае гэта дзеля таго, што хляўным гноем багатым на перагной можна гнаіць менш, а нястачу некаторых кармовых сучастак дапоўніць гнаямі штучнымі. Сёлета, калі шмат дзе ёсьць менш саломы і дзеля таго можна спадзявацца, што будзе менш і гною — мела-б гэта пазнаньне не малое значэньне.

Акрамя таго зьвярнулі ўвагу на торф. Аказваецца, што калі прыгатоўваць кампост з торфу, гэта знача, калі торфу ўжываем замест звычайнай зямлі, дык у такім кампосьце будзе так-жа шмат распускальнага перагною. З гэтага ясна, што торф можа быць проста бяздонным жаралом распускальнага перагною, бо торфу-ж у нас ёсьць ня мала. Кампост з торфу павінен прыгатоўвацца магчыма хутка, бо тады мае ў сабе больш перагною і тады можна даваць яго на поле й на сенажаці меншую порцыю.

Аб торфе й ягоных свомасьцях як матарыялу на падсьцілку, пісалася ня раз. Магчымасьць атрыманьня з торфу распускальнага перагною ёсьць яшчэ адным довадам, каб карыстаць з торфу як найшырэй. Пры сёлетняй нястачы саломы торф ня толькі заменіць яе ў пэўнай меры, але акрамя таго падыйме якасьць выпрадукаванага хляўнога гною. А гэта пазволіць утрымаць ураджаі нязьменшанымі нават тады, калі з прычыны зьменшанай колькасьці хляўнога гною гнаілі-б ім поле слабей чым дагэтуль. Бо перагной, які паўстае з торфу, гной хляўны чacткава замяняе.

*Грамадзяне Беларусы! Вучыце сваіх дзетак беларускай граматы! Дамагайцеся сваіх беларускіх школаў!*

**Інж. Ад. Клімовіч.**

## Асновы земляробскай эканомікі.

10)

*Плян жывёлагадоўлі.*

Падобна як пры вытворчасьці расьліннай, так і пры жывёлагадоўлі патрэбны п л я н. Трэба паймення ўстанавіць:

1. гатунак і лік ужытковай жывіны (жывёлы), якую маемся гадаваць;
2. вырахаваць, колькі на гэта трэба корму й падсьцілкі;
3. устанавіць гатунак і лік мёртвага інвэнтару;
4. устанавіць патрэбны лік работніцкіх сіл і
5. устанавіць якія й колькі патрэбныя будынкі.

**Гатунак і лік ужытковай жывёлы.** Апрача сказанага аб жывёле раней, у аддзеле аб капітале жывёлы (бач. 19—21), дадаць тут трэба, што само паняцьце ўжытковасьці й асабліва карыснасьці жывёлы з часам вельмі мянялася. Быў час, калі думалі, што жывёла ў гаспадарцы гэта толькі „канешнае зло“, трыманае й гадаванае дзеля гною. Сягоньня пагляд на гэта зьмяніўся, асабліва калі гаварыць аб гадоўлі такой жывёлы, як малочная скаціна, якая карысна і гноем, і малаком і — мясам. Не гаворачы ўжо тут аб відавочных карысьцях з гадаваньня ў нас скаціны, зазначыць трэба з асаблівым націскам вартасьць гною скаціны, без каторага нашы асабліва бедныя грунты зусім ня родзяць.

Як ужо ўспаміналася, абсада жывёлы лічыцца ейнай вагай: вялікую штуку прынята рахаваць у 500 клгр. І тады гадоўля лічыцца вельмі сільнай, калі 1 штука (500 клгр.) выпадае на 1—1¼ гэктара; сільнай — адна штука на 1¼—1½ гэктара; сярэдняй — адна штука на 1½—2 гэктары і слабай — адна штука на 2—2½ гэктара.

Мноства гадаваных штук залежа ад таго, як многа ў гаспадарцы ёсьць свае пашы й падсьцілкі: дакупліваць аплачваецца толькі пашу концэнтраваную (фабрычную, як жмыхі, макух і п.); ад таго, як лёгка можна прадаць жывёлагадоўляныя прадукты і ўрэшце ад таго, як дарагі работнік.

Пры абрахунку карыснасьці ў ж ы т к о в а й гадоўлі скаціны трэба паступаць гэтак: асобна зрахаваць сыры прыбытак грашавы, асобна—кошты прадукцыі і — параўняць. На сыры прыбытак грашавы складаюцца гэткія пазыцыі: вартасьць усяго надоенага малака, вартасьць цяляці і вартасьць хляўнога гною*).

На кошты прадукцыі складаюцца гэткія выдаткі:
а) капітал жывога інвэнтара:
апрацэнтаваньне ўложанага на куплю дадзенай штукі капіталу (5 прац.), амортызацыя (5 прац.), страхоўка (2 прац.),
б) Капітал будынкаў:

| | |
|---|---|
| апрацэнтаваньне | 4 прац. |
| амортызацыя | 1 прац. |
| папраўкі | 1 прац. |
| страхоўка | 1 прац. |

*) 100 кілёграмаў хляўнога гною ад ужытковай скаціны роўнаварты 4 кілёграмам збожа.

# Чыстае малако

Аб канешнасьці захаваньня чыстаты пры вырабе малака гаварылася й пісалася ўжо гэтулькі, што трудна нешта йшчэ дадаць. Справа гэта важная дзеля таго, што бяз добрага малака ня можна атрымаць высокай якасьці масла. Дзеля таго аднак што масла наша на заграні́чных рынках мае славу не асаблівую, дык нічога дзіўнага, што за яго й плацяць цэны вельмі нізкія. Былі выпадкі, што за масла гэта на ангельскім рынку плацілі цэны на палову ніжэйшыя ў параўнаньні з цэнамі за масла з іншых краёў. Ня трэба дадаваць, што калі нізкую цану атрымоўвалі за тавар экспортны (вывозны), а знача за масла найлепшага (ў нас) гатунку, дык за масла празначанае на рынак нутраны (мясцовы), значна горшае, атрымаць можна цану яшчэ ніжэйшую.

Гэта ёсьць найважнейшая прычына, дзеля якой малачарні выплачваюць земляробу нізкую цану за дастаўленае малако, бо могуць за яго плаціць толькі гэтулькі, колькі самі атрымоўваюць за прададзенае масла. Гэта зусім зразумелае. Земляробы, што жывуць у блізкасьці вялікіх гарадоў, знаходзяцца ў лепшым палажэньні, бо могуць прадаць малако да спажыцьця ў стане сырым (не перапрацаваным на масла). Затое вялізарная большасьць гаспадароў, якія жывуць воддаль ад гарадоў, могуць дастаўляць малако толькі ў малачарні на перапрацоўку на масла. І таму якраз цэны за малако залежаць ад цэнаў за масла.

Малачарні плацяць мала, гэта праўда. Маглі-б плаціць больш, калі-б маглі кінуць на рынкі як краёвыя так і заграні́чныя масла вельмі добрае, якое магло б раўняцца з маслам ведамым з свае добрае якасьці, напр. данскім, галяндзкім і г. д. Нажаль, у сяньняшніх варунках гэта немагчыма, бо дастаўлянае з сялянскіх гаспадарак малако часта бывае так благое, а перад усім бруднае, што аб вырабе з яго добрага масла ня можа быць мовы. А ведама, што з кепскага й неадпаведнага сырца найспрытнейшы майстра нічога добрага зрабіць не патрапіць.

Калі хочам падняць даходнасьць з гадаваньня скаціны, гэта знача больш атрымоўваць гатоўкі за малако, дык мусім ня толькі больш яго вырабляць лепш кормячы каровы, але перад усім абходзіцца з гэтым малаком так чыста й умела, каб з яго можна было вырабіць добрае масла. Заўважма пры гэтым, што калі сам выраб малака малочнай каровы багатага кармленьня каштуе, што дорага каштуе, дык для атрыманьня гэтага малака ў форме чыстай патрэбным ёсьць толькі стараннасьць, увага і прывычка да чыстаты, што блізу ніякіх коштаў не вымагае.

Некаторыя малачарні, каб заахвоціць земляробаў да захаваньня чыстаты пры дваеньні кароў, увялі выплату за малако ў залежнасьці ад ягонай чыстаты. Так напр. за літр звычайнага малака плацяць — скажам — 9 грашоў, за чысьцейшае — 10 грашоў, а за зусім чыстае — 11 грашоў. Гэта знача, што розьніца на літры выносіць 2 грашы. Ня ёсьць гэта сума малая, калі прыймем пад увагу агульную колькасьць малака дастаўленага ў малачарню праз цэлы год. Выясьнім гэта на прыкладзе. Калі гаспадар мае чатыры каровы, з каторых можа пасьляць у дзень у сярэднім — скажам — 20 літраў малака, дык гэткая „нагарода“ за чыстату малака будзе 40 грашоў у дзень. Здаецца ня шмат, але за тыдзень гэта ўжо дасьць 2 зл. 80 грашоў, а за год 146 (сто сорак шэсьць!) залатовак. А гэта ў гаспадарцы хіба нешта знача.

Варта над гэтым застанавіцца. Вышэй успомнены прыклад паказвае, што даход з аднае каровы можна павялічыць больш як на 35 зл. у год. Невялікая вёска мае прынамся 50 дойных кароў і пры дагэтуляшнім спосабе гаспадаркі малака траціць у год 1.750 (тысяча семсот пяцьдзесят) зл. А колькі на гэтым трацяць вёскі большыя, гміны, паветы?!... І ўсё гэта толькі дзеля таго, што вырабляецца малако брудна. Ці доўга йшчэ так будзе — залежа гэта перад усім ад самых гаспадароў-земляробаў.

---

в) Капітал мёртвага інвэнтара (усякая гаспадарская снасьць): . . . . . . . . . . . . . 15 прац.
г) Капітал абаротны — не апрацэнтоўвуецца, бо не апрацэнтоўвуецца й прыход з малака.

Да гэтага дадаць яшчэ кошты самае пашы, падсьцілкі, працы*) і ўрэшце кошты непрадбачаныя, як лекі й іншыя. —

На колькі гэтак абрахаваныя кошты прадукцыі акажуцца меншымі, чым сыры грашавы прыбытак, на гэтулькі лепш выкарыстоўвуе адна дадзеная штука пашу, чымся калі-б гэта паша была прададзеная проста.

Падобна абрахоўвуецца й рахунак штукі скаціны кормнай. Тут у сыры грашовы прыбытак зарахоўвуецца:
а) сума выручаная ад продажы,
б) у сярэднім 70 q**) хляўнога гною (у месяц па 10q)***).
На кошты прадукцыі адходзіць:
а) Капітал жывога інвэнтара — ўзятага на корм: цана самай някормленай штукі, страхоўка (2 прац.) й апрацэнтаваньне яе (5 прац.) за час 7 месяцаў;
б) Капітал будынкаў: працэнт:, амортызацыя, папраўка й страхоўка — 6.2 прац. за 7 месяцаў.
в) Капітал мёртвага інвэнтара: працэнт, амортызацыя, папраўка й страхоўка — 15 прац. за 7 месяцаў.
г) Абаротны капітал: кошты пашы й падсьцілкі.
д) Праца — 1 работнік абслужвае 15 кормных штук.

**Устанаўленьне пашы й падсьцілкі.** Ёсьць гэта вельмі важны мамэнт. Найчасьцей хапае ў гаспадарцы выробленай пашы грубой, але не хапае некаторых спажыўных сучастак, галоўным чынам бялкоў. Пашы багатыя на бялкі бываюць дарагія, але ўмелае стасаваньне іх звычайна аплачваецца.

Недастатак саломы на падсьцілку дапаўняецца торфам, які ёсьць найлепшым матар'ялам да вырабу цэннага гною.

*) лічыцца на 1 карову 0.1 часьць дня.
**) q=100 кілёграмаў.
***) гной ад кормнай скаціны лепшы як ад дойнай і цэніцца 6 клгр. збожа за 1 q гною.

*

Якасьць і мноства гаспадарскай снасьці патрэбнай да гадаваньня жывёлы залежаць ад заможнасьці самага гаспадара. Надбытак снасьці — гэта абцяжэньне гаспадарскага рахунку, але недастатак такой-жа снасьці яшчэ больш руйнуе ўложаны ў гаспадарку капітал.

*

Што да лічбы працоўных рук, дык гэта ў беларускіх сялянскіх варунках сягоньня на гэтулькі актуальна, што вёска наша задыхаецца ад беспрацоўя. А гэта, пагаспадарску бяручы, змушае тымбольш і хутчэй пераходзіць да такога заняцьця ў гаспадарцы, якое вымагае больш працоўных рук, між іншым і да жывёлагадоўлі. — Што пры гэтым трэба дбаць аб адпаведных гаспадарскіх будынках, лішне гаварыць. Будынкі празначаныя для жывёлы могуць быць і найпрасьцейшыя, але ня сьмеюць быць цёмнымі, сырымі вязьніцамі, у якіх нішто жывое ня вытрымае. Лішні раз тут яшчэ трэба адзначыць, што добры гаспадар пачынае будавацца не ад хаты, а ад хлява.

*Акончальны плян.*

Плян вытворчасьці расьліннай і жывёлагадоўлі трэба злучыць у адзін агульны, супольны, акончальны. Не заўсёды ўдаецца адразу гэтыя дзьве рэчы злучыць і прыходзіцца з канешнасьці нешта „прырэзаць“, нешта „надтачыць“. Рахунак тут рашае аб усім.

---

*Пішучы ў рэдакцыю, выразна падавайце сваё імя — прозьвішча, вёску і ПОШТУ.*

# Ураджай залежа ад папярэдняга засеву

Земляробства ёсьць галоўным заняцьцем жыхароў нашага Краю. Але ўраджаі на нашых палёх бываюць двойчы, а ўдоі з малочных кароў — трэйчы меншыя ў параўнаньні з земляробскімі гаспадаркамі Зах. Эўропы. Што ёсьць прычынай гэткага зьявішча?

Калі зьвярнуць увагу на абшар, які ў нас займаюць паасобныя расьліны, дык бачым, што збожжа займае 65 прац. усяго абсеўнага абшару. Зразумелая рэч, што збожжа ў першую чаргу патрэбна земляробу на тое, каб пражыць самому з сям'ёй і пракарміць жывёлу, а таксама, каб мець што вывезьці прадаць на рынак і атрымаць там адну-другую залатоўку на зварот. Таму чалавеку й здаецца, што яму трэба больш збожжа. А гэта ў канцы-канцоў гаспадару на добрае ня выходзіць.

Бо калі зьвернем увагу, што пад бульбаю, буракамі й іншымі акопнінамі, пад канюшынай, гарохам, сэрадэляй, лубінам і г. п. расьлінамі, добрымі папярэднікамі збожжа, знаходзіцца толькі 31 прац. ворнай зямлі, дык прыходзім да вываду, што больш як палова збожжа ў нас сеецца не на ўласьцівым і проста благім месцы. Збожжа йдзе часта па збожжы. А кожны земляроб ведае, якая бывае розьніца ў ураджаях, калі сеяць расьліну не на ўласьцівым месцы. Па акопнінах, па канюшыне, па гарохах збожжа добра родзіць ня толькі на зерне, але й на салому. І наадварот, ураджаі на адсевах ніколі добрымі ня будуць. Замест збожжа расьце пустазельле і ўсякая трава, якая слабы ўраджай яшчэ больш абніжае, будова глебы псуецца, глыбшыя пласты яе хутка трацяць вогкасьць. Глеба пры гэтым выкарыстоўваецца аднастаронна й хутка галадае, хоць іншых складнікаў мае часам нават шмат. А ўсё разам абніжае ўраджай.

Але на гэтым не канец. Само благое збожжа бывае кепскім папярэднікам для расьлін, што пасьля яго на гэтым-жа полі засяваюцца— як гарахі, канюшына, а нават акопніны на хляўным гнаі. Пасьля ўсяго гэтага няма дзіву, што нашы ўраджаі ня могуць раўняцца з загранічнымі.

За вялікі абшар пад збожжам вядзе да таго, што сеем за мала канюшыны, гарахоў, расьлінаў матыльковых, пашных і г. д. Усе гэтыя расьліны гэта вельмі цэнная паша для жывёлы, а ведама кожнаму, што бяз пашы няма мовы і аб гадоўлі.

Каб падняць ураджай усякіх гаспадарскіх засеваў, трэба больш гадаваць тых, якія зьяўляюцца добрымі папярэднікамі збожжа. Пабольшым гэтак колькасьць прадукаваньня пашы, а гэта падыйме малочнасьць нашых кароваў. Ня трэба пры гэтым баяцца спадку прадукцыі збожжа. Колькідзесят гадоў таму назад, калі ў нас на шырэйшую руку заводзілі саджэньне бульбы й буракоў, таксама баяліся, што будзе мала збожжа. А ў сапраўднасьці замест зьменшыцца прадукцыя гэта павялічылася, бо пры гадаваньні бульбы палепшаны былі спосабы абрабляньня глебы, а гэта давяло да таго, што ўраджаі з гэктара павялічыліся і ў суме зьбіралі людзі збожжа больш, чым прад тым. Гэтак сама справа прадстаўляецца і з пашыраньнем засеву розных расьлінаў пашных, якія зьяўляюцца добрым папярэднікам збожжа.

*З. М.*

# Як выбіраць ушчэпы?

Найважнейшае, на што трэба зварачваць увагу пры выбіраньні ўшчэпу гэта тое, каб ён быў здаровы, а асабліва каб на карэньні ня меў гузоў (рак карэньня) і каб кару ягоную не абсядаў шкоднік— ваўністы караед. Гэтых шкоднікаў асабліва трэба высьцерагацца, бо змагацца з імі ў садох ужо засаджаных вельмі цяжка, а часам і проста немагчыма.

Лягчэй усьцерагчыся гэтых шкоднікаў, як з імі пасьля змагацца. Гузаватасьць на карэньні спатыкаецца ў розных гатунках садовых дрэў, на кустох і на бураках у форме наросшых гузоў, якія можна лёгка заўважыць. Таму пры выпісваньні ўшчэпаў (асабліва йгруш і яблыняў) трэба ўважна аглядаць карэньне і ня купляць, а тымбольш не садзіць тых ушчэпаў, якія выдаюцца хворымі ці хоць-бы толькі западозранымі. Памятаць пры гэтым трэба, што самае толькі вырэзваньне і выкіданьне гузоў хворых ушчэпаў гэта йшчэ мала. Бо такая гузаватасьць ня ёсьць нічым прыпадковым: родзіцца яна з бактэрыяў, якія маюць знаходзіцца ў тканцы караня. Па перанясеньню такога заражанага дрэўца на новае, не заўсёды для ўшчэпу карыснае месца хвароба гэта можа нанова выступіць. З хворага дрэўца без пары асыпаецца лісьце, само дрэўца разьвіваецца слаба, мала дае пладоў або праз колькі год запарам гэткіх пладоў зусім не дае.

Акрамя такіх гузоў, небясьпечны так-жа й спатыканыя на карэньні ранкі, бо браз іх пракрадаюцца ў карэньне хваробныя зародкі. Таму калі такія ранкі на карэньні ўсё-ж здараюцца, дык іх трэба прамыць мешанінай з бордоскай жыжкі й гліны.

Што да ваўністага караеда, дык гэты шкоднік найчасьцей спатыкаецца на яблынях у кучках, прыкрытых лёгкай белай, быццам воўнай, павуцінай. Гэта ваўністы караед, каторага, калі расьціснуць, дык выдзяляе чырванавую жыжку.

Усё гэта прыняўшы пад увагу, трэба старанна пераглядаць пянёк, асабліва тыя мясцы, дзе зрэзаны галінкі і мясцы шчапленьня, у якіх гэты шкоднік вельмі ахвотна гнездзіцца.

Ушчэпаў апанаваных ваўністым караедам, хоць-бы яны й прадаваліся танна, ня трэба купляць.

*„Рольнік“.*

*Kutok dla haspadyniaŭ*

# Jak niščyć škodnikaŭ kurej

Ukrainskija kooperatary zhodna ćvierdziać, što jajko heta valuta, hrošy. I słušna. Asabliva sioleta, kali cana na jajki trymajecca davoli ćviorda. Tymboĺš treba apiekavacca samymi kurami, dla jakich ciapier uvosieni nastaje niebiaśpieka roznych škodnikaŭ, jak zavašyvieńnie, klaščy i ŭreście vapnianka noh. Pierahledzim koratka ŭsio heta paparadku.

Zavašyvieńnie kurej ułaściva kažučy škodzić nia hetulki samaj kurycy, kolki jejnamu pierju, i tamu samyja kurynyja vošy nazyvajucca pierajedami. Sadziacca jany na pier'i i na samym viersie skury, ad čaho pierje maładych kurej trepicca j kryšycca, a starych — zusim vypadaje. Škodniki hetyja lohka pieranosiacca z adnaje kurycy na druhuju, asabliva kali kury kiepska byli kormlenyja i naahuł słabyja. Baraćba z hetym škodnikam nialohkaja, choć sam jon byvaje vielmi drobnym i jaho možna čuć-čuć tolki zaŭvažyć hołym vokam.

Kab uścierahčy kurej ad zavašyvieńnia, treba im pryhataŭlać suchuju kupiel z miešaniny suchoha drobnaha piasku z dadatkam ciortaha dzieraŭlanaha vuhla j sierki. Usio heta nasypajecca ŭ płoskuju šyrokuju skrynku, jakaja stavicca na vidnym miescy ŭ kurniku, ci (ŭ drobna haspadarskich varunkach) 'u zacišnym śvietłym miescy pad pavietkaj; asabliva ŭ słotnyja vosienskija j zimovyja dni, kali kury nia mohuć instynktoŭna sami šukać dla siabie takoj suchoj kupieli ŭ suchim čystym piasku.

Ale hetak možna ścierahčysia tolki prad zavašyvieńniem kurej. Zatoje kali hetyja škodniki ŭžo znajšlisia, dyk na ich treba ŭžyvać sposabaŭ inšych. Pajmienna: praz 5 ci 6 dzion treba pierasypać pierje j puch takoj ptuški (nie kanieśna tolki kurycy) drobna raściortaj sierkaj. U takich-ža miascoch, jak kala zadka, u chvaście, pad kryllami i na šyi aściarožna ŭcirajem krychu šeraj maści. Treba tolki pry hetym viedać, što šeraja maść heta silnaja atruta i tamu jaje treba staranna ńcirać u pierje j skuru, ničoha nie pakidajučy na viersie. Zvyčajna da-

voli byvaje razy try pierasypać sierkaj i raz abo dva razy naciorci šeraj maściaj. Kuraniatam zvyčajna hetych lekaŭ nie dajuć, nacirajučy im tolki hałovy lannym alejem z dadatkam aleju z anižu.

Druhim važnym škodnikam chatniaj ptuški źjaŭlajecca jšče drabniejšy ad papiaredniaha — heta klešč. Jon niepakojć kurycu tolki ŭnočy, vypivajučy z jaje kroŭ. U dzień-ža klešč chavajecca ŭ ščelinach kurynych hniozdaŭ, na žordkach i naahuł u ciomnych brudna trymanych kurnikoch. U prociŭležnaść hetamu ŭ kurnikach śvietłych, čysta ŭtrymanych, dzie ścieny i žordki prynamsi dvojčy ŭ hod staranna pabielajucca vapnaj*), a ŭsialakija ščyliny zaleplivajucca, — u hetkich kurnikoch kleščy nia vodziacca j kurej nie biezpakojać. Akramia hetaha žordki ŭ kurnikach možna jšče šmaravać rastvoram kreoliny. Karasinaj adnak ich šmaravać nia možna, bo heta škodzić kuram.

Urešcie — vapnianka kurynych i indyčych noh. Pryčynaj jaje byvaje tak-ža drobny — pamiž nazvanych najdrabniejšy — škodnik, jaki lohka pieranosicca z adnaje ptuški na druhuju. Hnieździcca jon na nieapieranych časciach noh i byvaje pryčynaj zhrubieńnia j adstavańnia łuski, jakoj nohi byvajuć pakrytyja. Chvoryja na vapnianku nohi śviarbiać i balać, ad čaho ptuška chramaje. Lečycca vapnianka nacirańniem miešaniny z lannoha aleju j rastoplenaha šeraha myła — pa roŭnaj čaści — z dadatkam kreoliny. Hetaj apošniaj dadajucca dźvie łyžački na šklanku miešaniny. Ucirajem heta lekarstva ŭ nohi ščotačkaj viečaram, kali ptuška ŭžo siadzić na kurasadzie, a paśla abvierčyvajem kožnuju nahu vuzkaj šmatkaj. Pa niekalkirazovym ucirańni zhrubieŭšaja skura pačynaje łupicca, a jak nohi stanuć čystymi, vapnianka ŭžo vylečana. Adnačasna treba pravieści dakładnuju dezynfekcyju samaha kurnika — vapnaj i kreolinaj abo łuham.

Vapnianka jošć davoli zaraznaj. Tamu pierš čym puścić nieznajomuju ptušku ŭ stada svaich ptušak, treba jaje dakładna prahledzić, ci nia maje chvorych na vapnianku noh.

*Z. Z.*

*) na kožnyja 10 litraŭ razdroblenaj palenaj vapny dajecca paŭtara kilohrama šeraha myła i poŭkilohrama stalarskaha kleju.

## Два гады ўжо выходзяць „Wiadomości Białoruskie,"

якія стала інфармуюць польскую прэсу і ўсе найвышэйшыя ўстановы ў Польшчы аб беларускім жыцьці, аб нашай долі і нядолі. Акрамя падзеяў агульна-беларускіх, „Wiad. Biel." зьмяшчаюць і прававаныя матарыялы з жыцьця нашай вёскі. Дык пішэце ў рэд. „Wiad. Białoruskich" (Вільня, Завальная 1) карэспандэнцыі аб цікавых здарэньнях з беларускага жыцьця ў Вашай ваколіцы. Пісаць можна пабеларуску.

# Што чуваць на сьвеце

## Вайна...

Гішпанская вайна ў апошнім часе перайшла ў кабінэты кіраўнікоў міжнароднай палітыкі: Англіі, Францыі, Нямеччыны й Італіі. Англія й Нямеччына выступілі з праектам адкліканьня нямецкіх і італьянскіх „дабравольцаў", што ваююць па старане паўстанцаў. Італія на гэту прапанову адказала, што будзе гаварыць аб гэтай справе толькі тады, калі па старане ўрадавай будуць скасаваны ўсе міжнародныя батальёны, калі паўстанцам прызнана будзе права ваюючай стараны і калі ўся справа будзе перададзена ў Лёндынскі Камітэт Неінтэрвэнцыі. — Французы кажуць, што італьянская тактыка адцягіваньня мае на мэце выйгрываць на часе і каб пасьля ўсю віну зваліць на Саветы. А тымчасам Італія й Нямеччына ня толькі не адклікаюць з Гішпаніі сваіх „дабравольцаў", але пасылаюць туды новыя сілі: Італія мабілізуе жаўнераў, а Нямеччына шле розных спэцыялістаў.

У Кітаі падзеі разьвіваюцца. Чым далей, тым выразьней становіцца, што адпор кітайскі будзе сільны. Галоўны кітайскі камандзер Чан-Кай-Шэк заявіў, што вайна сяньняшняя злучыла кітайцаў, якія праз 20 апошніх гадоў былі падзелены.

Японскія дыплёматы выракаюцца, што гэта не яны пачалі вайну на Ўсходзе, а Кітайцы. Японцы быццам толькі „бараніліся". — Ды й на фронце няцікава. Кітайскія аэрапляны метка б'юць па японцах, а ў дадатку вада з спушчаных ставоў і рэкаў загражае заліцьцём галоўных японскіх складаў.

## Слова мае Амэрыка.

Прэзыдэнт Злуч. Штатаў Паўн. Амэрыкі Рузвэльт, аб'яжджаючы сваю дзяржаву, 5 г. м. сказаў у Чыкаго вялікую прамову, якой слухала 50.000 слухачоў і якая перадавалася праз радіо. Рузвэльт між інш. заявіў: палітычная сытуацыя ўзбуджае занепакаеньні сярод тых, хто хочаць міру. Міжнародные права гвалціцца такімі спосабамі, якія пагражаюць цывілізацыі. Усе дзяржавы зброяцца. Зброіцца й Амэрыка, выдаючы на гэта 11—12 прац. сваіх выдаткаў, што ёсьць вельмі мала ў параўнаньні з іншымі дзяржавамі. — З іншых жарол ведама, што Амэрыка пачынае значна больш цікавіцца падзеямі пазаамэрыканскімі і зброіцца не памалу. На выпадак зброінага канфлікту, чыннае ўчасьце Амэрыкі можа й цяпер заважыць ня менш, як пры канцы сусьветнай вайны.

## Арабскія забурэньні ў Ерузаліме.

На пачатку гэтага месяца ў Ерузаліме пачаліся ўзноў арабскія забурэньні. Каб не дапусьціць да чаго паважнейшага, англіцкія ўлады выдалі наказ арыштаваць галоўных арабскіх павадыроў, якіх ужо й вывезьлі на акіянскую выспу Січлесс на Ціхім Акіяне. Вялікі муфті (найвышэйшы духоўнік мусульманскіх арабаў у Ерузаліме) схаваўся ў мэчэце Омара, куды паліцыя ня мае доступу, каб адтуль далей кіраваць арабскім жыцьцём. Англіцкія ўлады ў мэчэт не пайшлі, але ськінулі муфті'га з ягонага ўраду і забаранілі што-небудзь аб ім пісаць.

## Збліжэньне Малой Антанты з Мадзяршчынай.

Малая Антанта (абаронны саюз Чэхаславаччыны, Югаславіі й Румыніі) аддаўна супраціўлялася збраеньням Мадзяршчыны. Пагроза аднак „васі Рым-Бэрлін" змусіла да пэўнай меры пайсьці на ўступку. У выніку гэтага прадстаўнікі М. Антанты ў канцы верасьня ў Жэнэве вялі перагаворы з прадстаўніком Мадзяршчыны. Апрача згоды на дазбраеньне, Мадзяршчына маецца выторгаваць яшчэ і палёгкі для мадзярскай меншасьці, асабліва ў Румыніі. Што ўзамен за гэта дасьць Мадзяршчына, тым часам няведама.

## Падарож у Прыбалтыку.

Польскі міністр промыслу й гандлю Роман у першых днях кастрычніка выехаў з афіцыяльнай візытай у прыбалтыцкія дзяржавы: Эстонію, Фінляндыю й Латвію. Падарож гэта, хоць афіцыяльна мае характар гаспадарчы, не пазбаўлена матываў палітычных.

## Мусоліні ў Нямеччыне.

Ад 25 да 29 верасьня гасьцяваў у розных мясцох Нямеччыны дыктатар Італіі Б. Мусоліні. Усюды, дзе толькі зьяўляўся, арганізавана было яму ўрачыстае прыняцьце. Паездка гэта мае вялікае палітычнае значэньне ў будаваньні фашыстаўска-дыктатарскага блёку ў Эўропе. Немцы акрамя таго ўзновілі свае жаданьні заморскіх калёніяў, і ў гэтым знаходзяць цяпер падтрыманьне з боку італьянцаў: адны й другія пры гэтым „шыюць боты" для Францыі й Англіі, коштам якіх і хочуць сабе калёніі здабыць.

Przesyłka opłacona ryczałtem.



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

**Ядвігіну Ш.** (Ант. Лявіцкаму) — беларускаму пісьменьніку і паэту памятнік ужо гатоў і будзе пастаўлены на магіле, на Віленскіх Росах, у палове гэтага месяца. Урачыстае адчыненьне памятніка прадбачыцца на дзень 2 лістапада сёл.— Памятнік гэты, у 15-ыя ўгодкі сьмерці паэта, ставіцца з дабравольных ахвяр, дзякуючы стараньням рэдакцыйнай калегіі часапісу „Шлях Моладзі.“ Як мы даведаліся, Ініцыятарам і выканаўцам гэтае вельмі пахвальнае справы не хапае йшчэ добрых паўсотні залатовак, каб выкупіць з фірмы гатовы ўжо памятнік. Дык хто не паслаў яшчэ свае складкі на памятнік, або хто можа пасланую ўжо складку дапоўніць, хай гэта зробіць што найхутчэй на адрэс рэдакцыі „Шляху Моладзі,“ Вільня, Завальная 1—2 (разрахунак № 59).

**Сьмерць Я. ЦехаНоўскага.** 6 г. м-ца памёр у Ашмяне Ян Цеханоўскі, б. дырэктар Беларускае Гімназіі ў Наваградку. Па зьліквідаваньні польскімі ўладамі названае Гімназіі, нябожчык працаваў у школе ў Ашмяне. Паховіны адбыліся 8 г. м. — Вечная памяць!

**Зацікавіліся Бел. Нацыянальным Камітэтам** Апошнім часам Віленскія адміністрацыйныя ўлады зьвярнулі ўвагу на Беларускі Нацыянальны Камітэт. Каб вытлумачыць падставы, на якіх Камітэт існуе, ягоны характар і будову, улады клікалі старшыню К-ту інж. Клімовіча, які 8 г. м. злажыў адпаведняе выясьненьне на пісьме. Ці ўлады будуць гэтым здаволены—тымчасам няведама.

**Суд за лемантар.** Летась быў выданы беларускі лемантар „Першыя Зерняткі,“ якія ўлажыў ведамы асьветны працаўнік С. Паўловіч. Лемантар гэты быў дастасаваны да сучасных варункаў хатняга навучаньня і аказаўся вельмі карысным дзеля пашырэньня граматы. Дзеля таго аднак, што лемантар гэты, уложаны літарамі гражданкі, усіх беларускіх бацькоў і апякуноў здаволіць ня мог, руплівы аўтор улажыў яшчэ і беларускі лемантар збеларушчанымі літарамі лацінкі (š, č, v) назваўшы яго „Zasieŭki.“ Лемантар гэты аказаўся йшчэ больш ходкім, як першы, бо, выданы сёлета вясной, у працягу двух тыдняў разыйшоўся ў ліку больш 500 экзэмпляраў. Дальш аднак лемантар гэты ня мог пашырацца, бо Віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі яго.

Быў гэта вялікі ўдар па беларускай самаасьвеце: выдаўцы („Белпрэс“) пацярпелі на гэтым грашова, беларускія дзеці асталіся без адзінага ў нас лемантара лацінкай, а аўтора С. Паўловіча чакае йшчэ за гэта судовая расправа, якая вызначана ў Віленскім Гарадзкім Судзе на дзень 20 гэт. м-ца. Беларускае грамадзянства чакае прысуду ў гэтай справе з вялікім зацікаўленьнем.

**„Шлях Моладзі“** — двутыднёвікам. Орган беларускай моладзі „Шлях Моладзі,“ які ў 1929 г. залажылі й ахвярна вядуць работнікі Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні, выходзіў дагэтуль рэгулярна як месячнік. У прадапошнім нумары „Шляху Моладзі“ (з 15.IX.37) рэдакцыя паведаміла сваіх чытачоў, што ўводзіць „неспадзеўку:“ пачынае **на пробу** выдаваць свой часапіс як двутыднёвік. І сапраўды, праз два тыдні пасьля гэтага (1.X.37) выйшаў ужо чарговы нумар часапісу, як заўсёды вельмі жыва й цікава рэдагаванага. Чытачы „Шляху Моладзі“ і ўсе прыяцелі беларускага друкаванага слова напэўна прывітаюць гэту неспадзеўку(!) вельмі горача і пасьпешаць прыдбаць новых платных падпішчыкаў. Гэтак толькі сьмелая проба выдаўцоў „Шляху Моладзі“ апраўдаецца і часапіс на далей астанецца ўжо двутыднёвікам. Падпіска на двутыднёвік „Шлях Моладзі“ (Вільня, Завальная 1—2) каштуе ў год толькі 2 зл. 50 гр. і з перасылкай.

**Дзень Беларускай Культуры.** За прыкладам леташняга году, Віленскія Беларусы й сёлета рыхтуюцца да ўрачыстага сьвяткаваньня Дня Беларускай Культуры. Сьвяткаваньне гэтага Дня прадбачыцца ў нядзелю 28 лістапада сёл.

**Б. Тарашкевіч — „вораг народу.“** Апошнім часам па Вільні разыйшлася вестка, што праф. Б. Тарашкевіч, аўтор 1-ай Беларускай Граматыкі, перадавы палітычны дзеяч з „Грамады“ і „Змаганьня,“ які быў суджаны польскімі судамі і пасьля заменены ў Саветы, цяпер там аказаўся залічаны ў лік "ворагаў народу." Дагэтуль Тарашкевіч жыў у Маскоўшчыне — у Менск і наагул у Беларусь яго ня пусьцілі — а які лёс спаткае яго цяпер— няведама.

**Беларусы на паховінах Т. Г. Масарыка.** Апрача спачуваньня зложанага Чэскаму Народу Беларускім Нац. К-там, такое-ж спачуваньне на пісьме перасьлалі адпаведным прадстаўніком: Беларуская Рада ў Празе — міністру загран. спраў Чэхаславаччыны, а АБСА — Цэнтральнаму Саюзу Чэхаслав. студэнцтва. Незалежна ад гэтага, асобная беларуская дэлегацыя ў складзе: Др Грыб, Др Ермачэнка і Інж. Русак злажылі на труну нябожчыка ляўравы вянок з белымі й чырвонымі рожамі і йстужкай у беларускіх нац. колерах (бела чырвона-белай), на якой быў чэскі надпіс: "Т. Д.—Масарыку, вучыцелю гуманізму й змагару за працу.— Беларусы."

**АБСА на Кангрэсе CIE.** АБСА—Аб'еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый прыймала ўчасьце ў сёлетнім Кангрэсе Міжнароднай Студэнцкай Конфэдэрацыі — CIE ў Парыжа 6—19 жніўня пяціасабовай дэлегацыяй. Беларуская дэлегацыя абзнаёміла прысутных на Кангрэсе з палажэньнем беларускага студэнцтва пры помачы асобнага пафранцуску выдадзенага бюлетэню. Праца беларускіх студэнтаў заслугоўвае на ўспамогу з боку беларускага грамадзянства; тымбольш што нашае студэнцтва на міжнародным грунце напатыкае вялікія перашкоды з боку прадстаўнікоў студэнцтва польскага й савецкага. Наступны кангрэс CIE ў 1938 г. прадбачыцца ў Афінах, у Грэцыі.

## У Палякоў.

**Страшныя лічбы.** Часапіс польскіх вучыцялёў падае, што з недастатку школ у Польшчы штогод астаецца 80 тыс. дзяцей бяз школы. Гэта круглыя анальфабэты. Акрамя таго 160—200 тысяч дзяцей пакідаюць штогод школу як поўанальфабэты. Поўанальфабэтамі зьяўляюцца так жа дальшыя каля 100 тысяч дзяцей, што канчаюць вясковыя аднаклясоўкі. — І адначасна насельніцтва Польшчы за леташні год прапіло ўсякіх сьпіртных напіткаў (без самагонкі) на 357 мільёнаў зл., а пракурыла ўсякіх папяросаў на 470 мільёнаў зл. — А на асьвету ў гэтымжа леташнім годзе было выдана толькі 411 мільёнаў зл.

— **Рацлавіцы** — гэта вёска ў Келеччыне, дзе польскія сяляне пабілі маскоўскае войска ў 1798 г.—18 красавіка сёл. ваколічныя сяляне над павадырствам людоўцаў ладзілі ў тых-жа Рацлавіцах сялянскае сьвята, хоць паліцыя ім гэта забараняла. За гэта вінаватых судзіў суд у Мехаве, які анагдай 4-ох учасьнікаў засудзіў па 1 годзе турмы, 3-ох — па 8 мес., 13-ох — па 6 мес., а 33-ох апраўдаў. — Пракурор падаў апэляцыю.

— **У Саюзе Польскага Вучыцельства—ZNP**, у выніку дакладнай рэвізіі, 30 верасьня уведзены Комісарычны ўрад. Дагэтуляшняму ўраду з выбараў закідваецца, што з саюзных грошаў успамагаў палітычную прэсу. — Як ведама, ZNP стаяў у апозыцыі да ўраду, а новаазначаны камісар ёсьць выдатным дзеячам ўрадавага ОЗН—у.

## З нашых сёлаў і мястэчак.

**Наша „Помпэя.“** Помпэя, гэта новаадкрытае места ў Італіі, якое многа гадоў таму назад было засыпана вульканічнай лявай. Вот-жа нешта падобнае маем і ў нас, хоць вульканаў тут і няма. У Палескім гарадку Давідгарадок, пры раскопках Замкавай гары наткнуліся такжа на даўна засыпаныя вуліцы й дарогі мошчаныя дрэвам. Давідградзкія раскопкі выклікалі вялікае зацікаўленьне ў навуковым сьвеце. Дальшымі працамі кіруе дырэктар Варшаўскага Архэолёгічнага Музэю Др. Р. Якімовіч. Натуральна, вынікамі гэтых раскопкаў мусяць зацікавіцца й Беларусы, бо Ім Палесьсе хіба-ж бліжэй, як Варшаве. А тымчасам, усё знойдзенае ў Давідгарадку чамусьці ня кіруецца ў Вільню, але якраз у Варшаву.

**У госьці ці так чаго?** У канцы верасьня і ў пачатку кастрычніка група бурмістраў з Памор'я адведала Вільню й цэлы рад нашых правінцыяльных гарадоў, цікавячыся ўсюды магчымасьцямі працы для прыездных рамесьнікаў і гандляроў. Судзячы па гэтым трэба думаць, што Паморскія госьці, пад шумок процiжыдоўскай агітацыі, хочуць перакінуць да нас надбытак сваіх людзей. Кожны стараецца для сябе.

## Адказы Рэдакцыі.

**М. См-ская—Астр.:** 2 зл. праз грам. Р—зу атрымалі. Дзякуем. Калі будзеце ў Вільні, абавязкава адведайце нас. Часапіс пасылаем.

**Я. Ахрэмка:** 1 зл. атрымалі, часапіс пасылаем.

**Ул. Селіцкі:** 1.50 зл. атрымалі. Просьбу споўнілі. Часапіс пасылаем.

**„Zw. Stud. Ziem Półn.-Wsch.“**— 3 зл. атрымалі Часапіс пасылаем.

**В. Сл.—ман:** 5 зл. атрымалі. Часапіс рэгулярна пасылаем.

**К. С—каў:** 2 зл. атрымалі. Непаразумленьне выйшла з таго, што на квіце было падана іншае назначэньне. Далей высылка будзе адбывацца рэгулярна.

## Цэны ў Вільні

**Малочнае,** *30.IX.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 3.20—3.30 |
| „ „ дэталь | —3.60 |
| Масла сталовае гурт . | 3.10—3.20 |
| „ „ дэталь | —3.50 |
| Сыр эмэнталь гурт. . . | 2.80—2.90 |
| „ „ „ дэталь | —3.40 |
| Сыр літоўскі гурт . . . | 1.80—2.40 |
| „ „ дэталь | 2.20—2.80 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 4.80—5.40 |
| „ ў дэталю за штуку | 8½—10 гр. |

„Самапомач“ выходзіць 10 і 25 кожнага месяца..

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“